*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.***



# наша СЛОВА.pdf



**Другі год выдання** **№ 1 (53) 4 студзеня 2023 г.**

# З Калядамі і Нараджэннем Хрыстовым!

## 2023 год абвешчаны Годам міру і стваральнай працы



**Дарагія суайчыннікі!**

У гэтым годзе мы ўбачылі, якія цесны наш неабсяжны свет. Дастаткова распаліць канфлікт у адной краіне, як пачынае ліхаманіць усю планету.

Ведаю, больш за ўсё вы хочаце пачуць, што будзе далей. Ці застанецца Беларусь астраўком бяспекі? Упэўнены, што гэта пытанне стане і галоўным жаданнем, якое вы загадаеце апоўначы.

Адказ просты: усё ў нашым жыцці будзе залежаць ад кожнага з нас. І ад усіх нас разам.

Калі мы хочам жыць у міры і бяспецы, то перш за ўсё павінны паважаць і шанаваць працу людзей у пагонах, выхоўваць дзяцей патрыётамі сваёй краіны і выконваць закон.

Калі мы хочам жыць у міры і дастатку, то павінны шмат і добрасумленна працаваць.

Калі мы хочам жыць у свабоднай і незалежнай дзяржаве, то павінны берагчы і абараняць гістарычную памяць, духоўныя каштоўнасці і спрадвечныя традыцыі.

Наступны год мы аб'яўляем **Годам міру і стваральнай працы**. Гэта адпавядае і духу часу, і памкненням нашых сэрцаў.

*З Навагодняга звароту Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі да беларускага народа.*



## Каляды

У стылым небе засынае вецер,
Стала ціха ў садзе і ля дома,
І ўглядаюцца ў акенца дзеці,
Зорку выглядаючы, вядома.

Гэты вечар самы найчароўны;
І няхай віхура і мароз,
На душы так ціха, памяркоўна -
Зараз нараджаецца Хрыстос!

І Анёл святло нясе па свеце:
Усім, хто свята верыць, і чакае.
Мандарыны, санкі малым дзецям,
А дарослым - філіжанкі з чаем…

І на сэрцы светла і прыветна…
А калі ўсё ж цені над душой -
То сняжынка на тваіх павеках
Расплывецца цёплаю слязой

***Алена Піменава.***

# Год міру і стваральнай працы!





# Юбілейныя і памятныя даты 2023 года

**Студзень**

**1 студзеня** - 100 гадоў з дня нараджэння **В.А. Грамыкі** (1923), беларускага жывапісца, народнага мастака Беларусі.

**1 студзеня** - 70 гадоў з дня нараджэння **М.Р. Прыгодзіча**, доктара філалагічных навук, прафесара.

**3 студзеня** - 100 гадоў з дня нараджэння **Алеся Шашкова** (1923), празаіка.

**3 студзеня** - 285 гадоў з дня нараджэння **Казіміра Нарбута** (1738, маёнтак Яшнец - 1807), асветніка, філосафа.

**7 студзеня** - 100 гадоў з дня нараджэння **В.І. Сахненкі** (1923-1973), жывапісца.

**7 студзеня** - 60 гадоў з дня нараджэння **Эдуарда Акуліна** (1963, в. Вялікая Нямкі Веткаўскага р-на), паэта.



**8 студзеня** - 435 гадоў з дня нараджэння **Яна Юрыя Радзівіла** (1588-1625 ), дзяржаўнага дзеяча ВКЛ.

**8 студзеня** - 175 гадоў з дня нараджэння (1848) у маёнтку Над-Нёман на Уздзеншчыне **Якуба Наркевіча-Ёдкі**, беларускі прыродазнаўца, вынаходніка, медыка.

**9 студзеня** - 70 гадоў з дня нараджэння **У.Я. Солтана** (1953-1997), кампазітара.

**10 студзеня** - 500 гадоў таму (1523) у Кракаве была выдадзена паэма Міколы Гусоўскага **"Песня пра Зубра"**.

**13 студзеня** - 110 гадоў таму ў Вільні пачала выдавацца газета **"Беларус"**. Выходзіла да 30.07.1915 г.

**13 студзеня** - 380 гадоў з дня нараджэння **Тодара Геранім Абуховіча** (1643-1707), мемуарыста, дзяржаўнага дзеяча ВКЛ.

**13 студзеня** - 80 гадоў з дня нараджэння **Міколы Чарняўскага** (1943), паэта, празаіка.

**14 студзеня** - 130 гадоў з дня нараджэння **Канстанцыі Буйло** (сапр. Калечыц; 1893-1986), беларускай паэткі, заслужанага дзеяча культуры Беларусі.



**17 студзеня** - 170 гадоў з дня нараджэння **Соф' Кавалеўскай** (1863-1918), фалькларысткі, этнографа, пісьменніцы.

**20 студзеня** - 110 гадоў з дня нараджэння **Л.К. Алексютовіч** (1913-2003), танцоўшчыцы, балетмайстра, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

**22 студзеня - 160 гадоў пачатку паўстання 1863 года ў Варшаве.**

**27 студзеня** - 110 гадоў таму (1913) упершыню пастаўлена ў Вільні камедыя Я. Купалы **"Паўлінка"**.

**28 студзеня** - 435 гадоў (1588) вялікі князь літоўскі і кароль польскі Жыгімонт III зацвердзіў **Статут ВКЛ**.

**28 студзеня** - 80 гадоў з дня нараджэння **Міхаіла Мікалаевіча Пташука** (1943-2002), кінарэжысёра, народнага артыста Беларусі.

**30 студзеня** - 190 гадоў з дня нараджэння **Апалінара Гіляравіча Тораўскага** (1833-1900), жывапісца-пейзажыста.

**Студзень** - 35 гадоў таму (1988 г.) выйшлі у свет навуковы і метадычны ілюстраваны часопіс **"Беларуская мова і літаратура ў школе"** (з 1992 г. мае назву **"Роднае слова"**) і маладзевы часопіс **"Крыніца"**.

**Студзень** - 30 гадоў таму (1993) выйшаў у свет першы нумар навуковага, навукова-метадычнага **"Беларускага гістарычнага часопіса"**.

**Люты**

**1 лютага - 160 гадоў пачатку паўстання 1863 года на Беларусі і Літве,** Часовы правінцыяльны ўрад Літвы і Беларусі ў гэты дзень абнародаваў Маніфест.

**1 лютага** - 110 гадоў з дня нараджэння **Сяргея Восіпавіча Прытыцкага** (1913-1971), дзяржаўнага і палітычнага дзеяча БССР.

**1 лютага** - 110 гадоў з дня нараджэння **А.А. Алешкі**, беларускага пісьменніка.

**2 лютага** - 185 гадоў з дня нараджэння **Кастуся Каліноўскага** (1938-1864), рэвалюцыянера-дэмакрата, публіцыста, кіраўніка паўстання 1863-1864 гг. на Беларусі і ў Літве.

**4 лютага** - 215 гадоў з дня нараджэння (1808) у фальварку Панюшкавічы (Бабруйскі р-н) **Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіч**, паэта, драматурга, аднаго з заснаваньнікаў беларускай літаратуры.





# Юбілейныя і памятныя даты 2023 года

**5 лютага** - 100 гадоў з дня нараджэння **Леаніда Дзмітревіча Шчамялёва** (1023), жывапісца, народнага мастака Беларусі.




**8 лютага** - 130 гадоў з дня нараджэння **Антона Неманцэвіча** (1893-1943), першага экзарха беларускай уніяцкай царквы выдаўца, публіцыста, педагога.

**9-15 лютага** - 460 гадоў таму (1563) маскоўскія войскі на чале Іванам IV Жахлівым захапілі **Полацк** і вывелі гараджан у палон.

**10 лютага** - 155 гадоў з дня нараджэння **Каруся Каганца** (сапр. Кастравіцкі Казімір, 1868-1918), пісьменніка, мастака.

**14 лютага** - 110 гадоў з дня нараджэння **Віталя Канстанцінавіча Цвіркі** (1913-1993), жывапісца, педагога, народнага мастака Беларусі.



**18 лютага** - 130 гадоў з дня нараджэння **Максіма Іванавіча Гарэцкага** (1893-1938), пісьменніка, літаратуразнаўца, крытыка, фалькларыста.



**19 лютага** - 85 гадоў з дня нараджэння **Леаніда Ніканоравіча Ціханава** (1938. в. Малы Аланец Карэльскай АССР), гісторыка. педагога. заслужанага дзеяча навукі Беларусі.

**21 лютага - Міжнародны дзень роднай мовы.**

**22 лютага** - 120 гадоў з дня нараджэння **Антона Нічыпаравіча Сеўчанкі** (1903-1978), фізіка, акадэміка АН БССР.

**22 лютага** - 110 гадоў з дня пастаноўкі (1913) у Пецярбургу гуртком беларускіх студэнтаў камедыі Я. Купалы **"Паўлінка"** (у ролі Паўлінкі - Паўліна Мядзёлка).

**22 лютага** - 70 гадоў з дня адкрыцця (1953) **Баранавіцкага краязнаўчага музея** (заснаваны 24.05.1946 г.).

**23 лютага** - 120 гадоў з дня нараджэння ў мястэчку Будслаў (цяпер Мядзельскі р-н) **Вінцука Жук - Грышкевіча** (1903-1989), грамадскага і палітычнага дзеяча.

**24 лютага** - 100 гадоў з дня нараджэння **І.М. Глебава** (1923-1986), скульптара.

**24 лютага** - 85 гадоў з дня нараджэння **І.У. Скурко** (1938-1989), беларускага паэта, кінадраматурга, перакладчыка.

**27 лютага** - 135 гадоў з дня нараджэння **Я.Я. Бялевіча** (1888-?), дзеяча беларускага нацыянальнага руху.

**Сакавік**

**1 сакавіка** - 90 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Жалкоўскага** (1933, в. Сасновы Бор Шчучынскага раёна - 2011, г. Ліда), журналіста, краязнаўца.

**1 сакавіка** - 80 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Генрыхавіча Пецюкевіча** (1913), паэта-песенніка.

**1 сакавіка** - 60 гадоў з дня нараджэння **Леаніда Лаўрэша** (1963, г. Ліда), краязнаўца, пісьменніка.



**6 сакавіка** - 140 гадоў з дня нараджэння **Івана Бялькевіча** (1883-1960), мовазнаўца.

**6 сакавіка** - 100 гадоў з дня нараджэння **Анатоля Ляляўскага** (1923-1995), рэжысёра тэатра лялек, народнага артыста Беларусі.

**7 сакавіка** - 85 гадоў з дня нараджэння **Міхаіла Міхайлавіча Чарняўскага** (1938 г.), археолага, мастацтвазнаўца, пісьменніка.

**9 сакавіка** - 140 гадоў з дня нараджэння **Францішка Аляхновіча** (пс. Ю. Монвід, 1883-1944), драматурга і тэатральнага дзеяча, паэта, празаіка.

**10 сакавіка** - 230 гадоў з дня нараджэння **Ігната Іосіфавіча Шыдлоўскага** (1793- 1846), паэта, выдаўца,

# Юбілейныя і памятныя даты 2023 года

фалькларыста.

**10 сакавіка** - 90 гадоў з дня нараджэння **Серафіма Андраюка** (1933), крытыка, літаратуразнаўца, кандыдата філалагічных навук.

**11 сакавіка** - 120 гадоў з дня нараджэння **Тодара Кляшторнага** (1903-1937), паэта.



**12 сакавіка** - 60 гадоў з дня адкрыцця (1963) у Гайнаўцы на Беласточчыне **Беларускага музея** (27.10.1990 у новым будынку быў адчынены **Беларускі этнаграфічны музей**).

**14 сакавіка** - 100 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Фёдаравіча Хацкевіча** (1923-1995), гісторыка.

**15 сакавіка** - 85 гадоў з дня нараджэня **Г.М. Малажай** (1938-2006), мовазнаўцы, літаратуразнаўцы.

**17 красавіка** - 20 гадоў таму (2003) выйшаў у свет першы нумар **"Краязнаўчай газеты"** (заснавальнік - Беларускі фонд культуры).

**18 сакавіка** - 90 гадоў з дня нараджэння (1933) **Алены Яновіч**, мовазнаўцы, доктара філалагічных навук.

**19 сакавіка** - 390 гадоў таму (I633) вялікі князь літоўскі, кароль польскі Уладзіслаў IV даў **Магілёўскаму брацтву** прывілеі на права адкрыцця друкарні і выдання кніг на беларускай, польскай, грэцкай і лацінскай мовах.

**25 сакавіка** - 105-я ўгодкі **Беларускай Народнай Рэспублікі.**

**25 сакавіка** - 70 гадоў з дня нараджэння (1953) у Валеўцы (Наваградскі р-н) **Івана Шэгі**, беларускага лекара, грамадска-палітычнага актывіста.



**27 сакавіка** - 100 гадоў з дня нарадэння **А.І. Рылько** (1923-1967), празаіка, драматурга, публіцыста.

**28 сакавіка** - 85 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Іосіфавіча Раговіча** (1938, гг. Парычы - 2005), харавога дырыжора, фалькларыста, педагога.

**29 сакавіка** - 200 гадоў з дня нараджэння **С.В. Замбрыжыцкага** (1823-1907), паэта, краязнаўца.

**30 сакавіка** - 90 гадоў з дня нараджэння (1933) у Менску **Валянціна Грыцкевіча**, беларускага лекара, гісторыка, грамадскага дзеяча беларускага згуртавання ў Пецярбургу.

**Красавік**

**2 красавіка** - 90 гадоў з дня нараджэння **Віктара Шымука** (Віненці Мікалаевіч; 1933, Дзятлаўскі р-н - 1998). паэта, нарысіста.

**4 красавіка** - 130 гадоў з дня нараджэння **Міколы Шчаглова-Куліковіча** (1893-1969), кампазітара, музычнага і тэатральнага дзеяча.

**5 красавіка** - 230 гадоў з дня нараджэння **Канстанціна Радзівіла** (1793-1856), дзяржаўнага дзеяча, мецэната, фалькларыста.

**7 красавіка** - 110 гадоў з дня нараджэння **М.Ш. Гугеля** (1913-1985), графіка.

**13 красавіка** - 100 гадоў з дня нараджэння **Б.Г. Скабло** (1923-1999), віяланчаліста, педагога, заслужанага артыста Беларусі.

**15 красавіка** - 85 год з дня нараджэння **Пятра Макарэвіча** (1938-2014 гг., г. Ліда), журналіста, беларускага пісьменніка.

**18 красавіка** - 120 гадоў з дня нараджэння (1903 г.) у в. Пабокавічы (Бабруйскі р-н) **Платона Галавача**, беларускага пісьменьніка, грамадскага дзеяча.



**19 красавіка** - 130 гадоў з дня нараджэння **В.С. Гарбацэвіча** (1893-1935), драматурга, педагога, заслужанага настаўніка БССР.

**21 красавіка** - 190 гадоў з дня нараджэння **Віктара Атона Сямёнавіча Каліноўскага** ( 1833, Гарадзенскі пав. - 1862), гісторыка, археографа, бібліяфіла, брата Кастуся Каліноўскага.

**23 красавіка** - 110 гадоў з дня нараджэння **Р.Л. Рэлеса** (1913- 2004), пісьменнік.

**24 красавіка** - 85 гадоў з дня нараджэння (1938-2020, г. Ліда) **Алеся Стадуба**, журналіста, беларускага пісьменніка.

**26 красавіка** - 160 гадоў з дня нараджэння **Я.Ф. Арлоўскага** (1863-1913), гісторыка, краязнаўца, педагога.

**27 красавіка** - 70 гадоў з дня выхаду ў свет (1953) літаратурна-мастацкага і грамадска-палітычнага часопіса **"Маладосць"**.

**Травень**

**1 траўня** - 110 гадоў з дня нараджэння **А.І. Кроля** (1913-1990),




# Юбілейныя і памятныя даты 2023 года

жывапісца.

**1 траўня** - 80 гадоў з дня нараджэння **Алеся Крыгі** (сапр. А.А. Асіпенка, 1943-2009), празаіка.

**3 траўня - Сусветны дзень свабоды друку.**

**4 траўня** - 170 гадоў з дня нараджэння (1853) у маёнтку Шаўры (Воранаўскі р-н) **Станіслава Нарбута,** беларускага лекара, вучонага-медыка, мецэната.



**5 траўня** - 160 гадоў таму назад (1863) загінуў начальнік паўстання Лідскага павета **Людвік Нарбут**.

**6 траўня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Ю.М. Свіркі** (1933-2004), паэта і перакладчыка.

**7 траўня** - 260 гадоў з дня нараджэння **Ю.А. Панятоўскага** (1763-1813), ваеннага і дзяржаўнага дзеяча.

**8 траўня** - 140 гадоў з дня нараджэння **С.М. Некрашэвіча** (1833-1937), мовазнаўца.



**9 траўня** - 110 гадоў з дня нараджэння **В.У. Івашына** (1913-2009), літаратуразнаўца, педагога.

**10 траўня** - 140 гадоў з дня нараджэння **Янкі Маўра** (сапраўд. Іван Міхайлавіч Фёдараў, 1883- 1971), пісьменніка, перакладчыка, аднаго з пачынальнікаў беларускай дзіцячай літаратуры.



**10 траўня** - 100 гадоў з дня нараджэння **В.Ф. Трыхмяненкі** (1923-1998), празаіка.

**11 траўня** - 190 гадоў з дня нараджэння **Бенядзікта Іванавіча Дыбоўскага** (1833-1930), заолага, прыродазнаўца, лекара.

**11 траўня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Ігара Вацлававіча Аржахоўскага** (1933, Менск - 2002), гісторыка.

**13 траўня** - 90 гадоў з дня нараджэння **А.М. Кішчанкі** (1933-1997), жывапісца, мастака па габелену.

**16 траўня** - 85 гадоў з дня нараджэння **А.В. Луцэвіча** (1938-2002), акцёра, заслуж. артыста Беларусі.

**18 траўня** - 85 гадоў з дня нарадэння **Міхаіла Антонавіча Позінца** (1938 г.), дырыжора, народнага артыста Беларусі.

**21 траўня** - 335 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Фаўстына Радзівіла** (1688-1746), дзярж. і ваен. дзеяч ВКЛ.

**23 траўня** - 35 гадоў Дзяржаўнаму **камернаму хору** Рэспублікі Беларусь.

**24 траўня** - 160 гадоў таму ў Вільні расстраляны ваверскі (в. Ваверка, Лідскага р-на) пробашч **Раймунд Зямацкі.**

**24 траўня** - 60 гадоў з дня нараджэння (1963) у Гародні **Зміцера Кісяля**, беларускага грамадскага дзеяча на Гарадзеншчыне, журналіста.



**25 траўня** - 90 гадоў таму (1933) адкрыўся у Менску **Вялікі тэатр оперы і балета** (цяпер Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балету Рэспублікі Беларусь).

**25 траўня** - 80 гадоў з дня нараджэння **М.М. Федзюковіча** (1943-1997), паэта, перакладчыка.

**25 траўня** - 85 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Іванавіча Карызны** (1938), паэта.

**27 траўня** - 90 гадоў таму (1933 г.), у Вільні выйшаў у свет культурна-грамадскі і літаратурны часопіс **"Беларускі летапіс"**. Выдаваўся да верасня 1939 г.

**28 траўня** - 160 гадоў таму ў Вільні павешаны паўстанцкі камандзір **Баляслаў Колышка**.

**29 траўня** - 90 гадоў з дня нараджэння **М.Р. Гайдука** (1933-1998), празаіка, пісьменніка, публіцыста.

**29 траўня** - 50 гадоў з дня нараджэння (1973) у Менску **Юрася Бушлякова**, беларускага мовазнаўца.

**31 траўня** - 100 гадоў з часу

# Юбілейныя і памятныя даты 2023 года

заснавання **Беларуска-навукова таварыства**. Існавала ў Вільні ў 1923-1940 гг.

**Чэрвень**

**3 чэрвеня** - 160 гадоў таму (1863) адбылася бітва паміж паўстанцкімі атрадамі і царскімі войскамі **пад Мілавідамі.**

**3 чэрвеня** - 160 гадоў таму ў Вільні расстраляны ксёндз **Станіслаў Ішора**.

**3 чвеня** - 35 гадоў таму (1988) быў надрукаваны артыкул З. Пазьняка і Я. Шмыгалёва **"Курапаты - дарога смерці"** ў штотыдневіку "Літаратуры і мастацтва".

**5 чэрвеня** - 160 гадоў таму расстраляны **Альберт Ласковіч**, паўстанцкі агітатар з Лідчыны.

**9 чэрвеня** - 220 гадоў з дня нараджэння **Адольфа Янушкевіча** (1803-1857), падарожніка, пісьменніка.

**9 чэрвеня** - 155 гадоў з дня нараджэння **Уладзіслава Вярыгі** (1868-1916), запісваў у Лідскім павеце беларускія песні і паданні. Этнограф і філосаф.

**14 чэрвеня** - 35 гадоў адраджэння **прадпрымальніцтва** ў Беларусі.

**15 чэрвеня** - 85 гадоў з дня нараджэння **В.С. Чайкі** (1938-2007), мастака, жывапісца.

**17 чэрвеня** - 170 гадоў з дня нарадээння **Л.Ф. Грынявіцкага** (1853-1891), падарожніка.

**18 чэрвеня** - 20 гадоў таму ў Ялце, на гарадскіх могілках, устаноўлены новы **помнік Максіму Багдановічу.**

**20 чэрвеня** - 85 гадоў з дня няраджэння **М.А. Аўласевіча** (1938-2008), мовазнаўца.

**20 чэрвеня** - 75 гадоў з дня адкрыцця (1948) у Вязынцы (Маладзечанскі р-н) філіяла **Літаратурнага дома-музея Янкі Купалы.**

**21 чэрвеня** - 75 гадоў з дня нараджэння (1948) у Менску **Яна Матусевіча**, уніяцкага святара, дэкана Беларускай грэка-каталіцкай царквы.

**22 чэрвеня** - 140 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Цвікевіча** (1883-1937), палітычнага дзеяча, гісторыка, філосафа, публіцыста.



**22 чэрвеня** - 125 гадоў з дня нараджэння (1888) у в. Саска Ліпка (Нясвіжскі р-н) **Язэпа Шнаркевіча**, беларускага культурна-асветнага дзеяча, педагога, мемуарыста.



**24 чэрвеня** - 160 гадоў таму ў Лідзе расстраляны ксёндз **Адам Фалькоўскі.**

**26 чэрвеня** - 85 гадоў таму - першыя выбары ў Вярхоўны Савет БССР.

**26 чэрвеня** - 20 гадоў таму ў Менску закрыты **Беларускі гуманітарны ліцэй**, які існаваў з 1991 г.

**29 чэрвеня** - 100 гадоў таму (1923) выйшаў у свет грамадска-палітычны і літаратурны часопіс **"Крывіч"**, які выдаваўся да 1927 г.

**Чэрвень** - 30 гадоў таму выйшаў у свет гістарычна-публіцыстычны ілюстраваны часопіс **"Беларуская мінуўшчына"**, які выдаваўся да 1999 г.

**Ліпень**

**1 ліпеня** - 430 гадоў з дня нараджэння **Альбрыхта Станіслава Радзівіла** (1593-1856), дзяржаўнага дзеяча, пісьменніка, гісторыка.

**1 ліпеня** - 90 гадоў таму (1933), у Менску заснаваны **Беларускі політэхнічны інстытут** (цяпер Нацыянальны дзяржаўны політэхнічны ўніверсітэт).

**5 ліпеня** - 85 гадоў з дня нараджэння **У.Г. Машкова** (1938-2000), празаіка.

**5 ліпеня** - 85 гадоў з часу заснавання **Нацыянальнага гістарычнага архіва** Беларусі.

**6 ліпеня** - 235 гадоў з дня нараджэння **Дамініка Манюшкі** (1788, Меншчына - 1848), асветніка, філантропа.

**8-10 ліпеня** - 30 гадоў таму (1993) у Менску ў Вялікім тэатры оперы і балета праходзіў 1-шы з'езд беларусаў свету, які прыняў 9 дакументаў-зваротаў і дэкларацый.

**9 ліпеня** - 390 гадоў таму (І633 г.) маскоўцы напалі на **Полацак** і выпалілі ўвесь горад.

**19 ліпеня** - 35 гадоў таму (1988) у Віцебску пабудаваны летні амфітэатр з самымі вялікімі ў краіне сцэнай і залай на 5400 месцаў. У ім штогод праводзіцца фестываль песні "Славянскі базар".

**14 ліпеня** - 110 гадоў з часу заснавання **Беларускага выдавецкага таварыства**. Дзейнічала ў Вільні да 1930 гадоў.

**15 ліпеня** - 85 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Андрэевіча**




# Юбілейныя і памятныя даты 2023 года

**Шабаліна** (1938. Пухавіцкі р-н), публіцыста. празаіка. заслужанага дзеяча культуры Беларусі.

**23 ліпеня** - 60 гадоў з дня нараджэння **Алеся Іванавіча Бельскага** (1963), літаратуразнаўца, пісьменніка, доктара філалагічных навук, педагога.

**25 ліпеня** - 170 гадоў **Менскай пажарнай камандзе**. З 1994 г. гэты дзень адзначаецца як Дзень пажарнай службы.

**27 ліпеня** - 60 гадоў з дня нараджэння **Рычарда Грушы** (1963, в. Сцеркава Лідскага раёна), мастака, скульптара, паэта. Аўтар і выканавец памятных знакаў І. Дамейку, А. Міцкевіу, І. Гашкевічу, У. Сыракомлю і інш.

**28 ліпеня** - 140 гадоў з часу заснавання **Гомельскага педагагічнага інстытура** (цяпер Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Ф. Скарыны).

**31 ліпеня** - 110 гадоў з дня нараджэння (1913) у в. Падкасоўе (Навааградскі р-н) **Міхала Петрыкевіча**, беларускага краязнаўца, музеязнаўца, педагога.



### *Жнівень*

**1 жніўня** - 100 гадоў з дня нараджэння **М.М. Грынчыка** (1923-1999), літаратуразнаўца і крытыка, заслужанага дзеяча навукі Беларусі.

**2 жніўня** - 190 гадоў таму ў Гародні (1833) пакараны на шыбеніцы **Міхаіл Валовіч** (1806-1833), рэвалюцыянер, сацыяліст-утапіст.

**4 жніўня** - 185 гадоў з дня нараджэння **Юзафа Беркмана** (1838-1919), беларускага жывапісца.

**5 жніўня** - 90 гадоў з дня нараджэння **П.А. Цомпеля** (1933-1997), беларускага скульптара.

**6 жніўня** - 85 гадоў з дня нараджэння **Ігара Міхайлавіча Лучанка** (1938), кампазітара, народнага артыста СССР.

**9 жніўня** - 130 гадоў з дня нараджэння **В.Ф. Мачульскага**, беларускага літаратуразнаўца.

**11 жніўня** - 100 гадоў з дня нараджэння **В.І. Ялатава** (1923-1980), музыказнаўца, фалькларыста.

**13 жніўня** - 110 гадоў з дня нараджэння **А.В. Багатырова** (1913-2003), беларускага кампазітара, педагога, народнага артыста Беларусі.

**14 жніўня** - 120 гадоў з дня нараджэння **С.С. Бірылы** (1903-1978), акцёра, народнага артыста БССР.

**15 жніўня** - 100 гадоў з дня нараджэння (1923) у в. Вялікая Ліпа (Нясвіжскі р-н) **Канстанціна Майсені**, беларускага грамадскага дзеяча на Беласточчыне, будаўніка Беларускага музея ў Гайнаўцы.




**21 жніўня** - 85 гадоў з дня нараджэння **С.М. Ларчанкі**, беларускага мастака манументальна-дэкаратыўнага мастацтва, скульптара.

**22 жніўня** - 100 гадоў з дня нараджэння **Земавіта Фядэцкага** (1923, в. Лебяда, Лідск. павета - 2009) пісьменніка, беларускага фалькларыста. Укладальнік зборніка беларускіх народных песень "Цёплыя вечары… ды халодныя ранкі…", запісаных у в. Феліксава ў 1942-1943 гг.



**23 жніўня** - 100 гадоў з дня нараджэння **А.А. Вейзэ** (1923-2001), беларускага мовазнаўца, педагога, перакладчыка.

**25 жніўня** - 70 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Арлова**, пісьменніка.



**28 жніўня** - 135 гадоў з дня нараджэння **А.В. Багдановіча** (1888-1969), беларускага мовазнаўца.

**29 жніўня** - 100 гадоў з дня нараджэння (1923) у в. Бандары (Падляшша) **Уладзіміра Казьбярука**, беларускага літаратуразнаўца.





# Юбілейныя і памятныя даты 2023 года

**Жнівень -** 150 гадоў **Беларускай чыгунцы**. 20 гадоў таму ў Лідзе ўстаноўлены помнік- манумент "130 год Беларускай чыгунцы".

**Верасень**

**1 верасня - Дзень ведаў, Дзень беларускага пісьменства.**

**1 верасня -** 165 гадоў з дня нараджэння **Міхала Федароўскага** (1853-1923), фальклярыста, этнографа, археолага.



**1 верасня -** 110 гадоў з дня нараджэння (1913) у в. Мокрае (Касцюковіцкі р-н) **Масея Сяднёва**, беларускага літаратара.

**4 верасня -** 130 гадоў з дня нараджэння **Юзюка Фарботкі** (Язэпа Аўгусцінавіча; 1893-1956), беларускага паэта літаратуразнаўца, перакладчыка.

**8 верасня - Міжнародны дзень пісьменнасці.**

**10 верасня -** 130 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Міхайлавіча Ляўданскага** (1893-1937), археолага.

**10 верасня -** 100 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Васільевіча Бірылы** (1923-1992), мовазнаўца.

**13 верасня -** 140 гадоў з дня нараджэння **Янкі Быліны** (сапр. Іван Семашкевіч, 1883-1955), паэта, драматурга.

**15 верасня -** 20 гадоў таму ў Менску, на плошчы Свабоды, адбылося ўрачыстае адкрыццё занава пабудаванай ратушы.

**20 верасня -** 120 гадоў з дня нараджэння **Наталлі Арсенневай.**

**20 верасня -** 80 гадоў з дня нараджэння **Ніны Мацяш** (1943-2008), паэтэсы, драматурга, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

**24 верасня -** 130 гадоў з дня нараджэння **Паўліны Мядзёлкі** (1893-1974), мемуарыста, заслужа-нага дзеяча культуры БССР.



**25 верасня -** 110 гадоў з дня нараджэння **Сяргея Грахоўскага** (1913-2002), пісьменніка, заслужанага работніка культуры Беларусі.

**25 верасня -** 85 гадоў **В.М. Целешу**, мастаку, краязнаўцу фальклярысту.

**26 верасня - Еўрапейскі дзень моў.**

**27 верасня -** 120 гадоў з дня нараджэння **В.З. Харужай** (1903-1942).

**29 верасня -** 200 гадоў з дня нараджэння (1823) - у фальварку Смольгава (Любаньскі р-н) **Уладзіслава Сыракомлі** (сапр. Людвік Кандратовіч), беларуска-польскага паэта-гуманіста, пісьменніка, публіцыст.



**Верасень -** 70 гадоў таму (1953) адкрыта **Менская Сувораўская вайсковая вучэльня.**

**Кастрычнік**

**1 кастрычніка -** 135 гадоў з дня нараджэння (1888) у в. Вялікія Шастакі (Дзятлаўскі р-н) **Лукаша Дзекуць-Малея,** беларускага грамадскага і рэлігійнага дзеяча.

**1 кастрычніка -** 120 гадоў з дня нараджэння **Алеся Змагара** (сапр. А. Х. Яцэвіч, 1903- 1995), пісьменніка, драматурга, публіцыста.

**7 кастрычніка -** 235 гадоў з дня нараджэння **Івана Насовіча** (1788-1877), літаратара, мовазнаўца, лексікографа, фальклярыста.

**7 кастрычніка -** 80 гадоў з дня нараджэння **Я.П. Жыпілы** (1934-1999), народнага артыста Беларусі.

**11 кастрычніка -** 110 гадоў з дня нараджэння **Эдзі Агняцвет** (сапр. Эдзі Сямёнаўна Каган, 1913-2000), паэтэса.

**13 кастрычніка -** 135 гадоў з дня нараджэння **Язэпа Драздовіча** (1888-1954), мастака, скульптара.

**14 кастрычніка -** 120 гадоў з дня нараджэння **Лявона Рыдлеўскага** (1903-1953) палітычнага і грамадскага дзеяча.



**14 кастрычніка -** 120 гадоў таму (1903) у Слуцку нарадзіўся **Сямён Косберг** (стваральнік ракет, авіяканструктар).

**16 кастрычніка -** 100 гадоў з дня нараджэння (1923) на хутары каля





# Юбілейныя і памятныя даты 2023 года

в. Машкова (Аршанскі р-н) **Міколы Крукоўскага**, беларускага філолага, філосафа, выкладчыка, грамадскага дзеяча.



**18 кастрычніка** - 130 гадоў з дня нараджэння **У. І. Уладзімірскага** (сапр. Малейка 1893-1971), акцёра, народнага артыста СССР.

**19 кастрычніка** - 35 гадоў таму (1988) у Менску створаны арганізацыйны камітэт **"БНФ за перабудову "Адраджэньне"**.

**20 кастрычніка** - 290 гадоў з дня нараджэння **Адама Тадэвуша Станіслава Нарушэвіча** (1733-1796), гісторыка, паэта, рэлігійнага дзеяча.

**22 кастрычніка** - 90 гадоў з дня нараджэння **І.М. Дабралюбава** (1933-2010), кінарэжысёра, сцэнарыста, Народнага артыста Беларусі.

**23 кастрычніка** - 200 гадоў з дня нараджэння **Адам Плуга** (сапр. Антон Антонавіч Пятровіч, 1823-1903), паэта, празаіка, журналіста.



**24 кастрычніка** - 95 гадоў з дня нараджэння **А.Я. Супруна** (1928-1999), мовазнаўца.

**25 кастрычніка** - 90 гадоў з дня нараджэння **Н.І. Шчаснай,** мастачкі, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

**26 кастрычніка** - 185 гадоў з дня нараджэння **М. В. Радзевіча** (1838 - пасля 1917), публіцыста, крытыка, педагога, этнографа.

**29 кастрычніка** - 85 гадоў з дня нараджэння **Янкі Саламевіча**, літаратуразнаўца, краязнаўца, бібліёграфа, перакладчыка.

**Лістапад**

**1 лістапада** - 150 гадоў з дня нараджэння (1873) у в. Крывуліна (Бежацкі р-н, Цвярская вобл., Расея) **Івана Замоціна**, беларуска-расейскага літаратуразнаўца.



**1 лістапада** - 135 гадоў з дня нараджэння (1888) у в. Юшаўшчына (цяпер Навасады, Валожынскі р-н) **Міхала Сапоцькі**, каталіцкага святара,



заснаваньніка Кангрэгацыі Сясцёр Міласэрнасці Ісуса Хрыста

**1 лістапада** - 90 гадоў з дня нараджэння **Вячаслава Адамчыка** (1933-2001), празаіка.



**7 лістапада** - 85 гадоў з дня нараджэння **В.У. Блакіта** (сапр. Болтач, 1938-2007), празаіка.

**8 лістапада** - 140 гадоў з дня нараджэння **Вацлава Ластоўскага** (1883-1938), грамадска-палітычнага дзеяча, гісторыка, пісьменніка.

**8 лістапада** - 120 гадоў з дня нараджэння **Міхася Явара** (сапр. М.А. Карась, 1903-1933), паэта.

**9 лістапада** - 165 гадоў з дня нараджэння **У.К. Стукаліча** (1858-1918), гісторыка, літаратуразнаўца.

**8 лістапада** - 165 гадоў з дня нараджэння **Тадэвуша Урублеўскага** (1858-1925), адваката, публіцыста, грамадскага дзеяча.

**8 лістапада** - 85 гадоў з дня нараджэння **Івана Сачанкі** (1938), гісторыка, журналіста.

**12 лістапада** - 200 гадоў з дня нараджэння **П. М. Шпілеўскага** (1823-1861), этнографа, пісьменніка.

**12 лістапада** - 130 гадоў з дня нараджэння **Апалікоза Фларыянавіча Пупко** (1893-1984), майстра разьбы па дрэве ў г.п. Івянец.

**16 лістапада** - 135 гадоў з дня нараджэння **Вінцэся Гадлеўскага** (1888-1942), грамадскага і рэлігійгага дзеяча.





# Юбілейныя і памятныя даты 2023 года

**16 лістапада** - 70 гадоў з дня нараджэння (1953) у Бабруйску **Аляксандара Пракапенкі**, беларускага футбаліста, чэмпіёна СССР (1982), адзінага футбольнага прадстаўніка Беларусі - бронзавага прызёра алімпійскіх гульняў (1980).



**18 лістапада** - 140 гадоў з дня нараджэння **Язэпа Лёсіка** (1883-1940), мовазнаўца, пісьменніка, педагога, акадэміка АН БССР, грамадскага дзеяча.



**20 лістапада** - 75 гадоў з дня нараджэння (1948) у в. Рудка (Пінскі р-н) **Яўгеніі Янішчыц**, беларускай паэткі.

**21 лістапада** - 130 гадоў з дня нараджэння **У.М. Стармінскага** (1893-1952), мастака.

**26 лістапада** - 80 гадоў таму (1943) савецкія войскі вызвалілі першы абласны цэнтр Беларусі - г. **Гомель**.

**27 лістапада** - 120 гадоў з дня нараджэння **Піліпа Пестрака** (1903-1978), пісьменніка.



**28 лістапада** - 100 гадоў з дня заснавання (1923) беларускага літаратурнага аб'яднання **"Маладняк"** (дзеіла да 1932 г.).

**30 лістапада** - 235 гадоў з дня нараджэння **К.А. Буйніцкага** (1788-1878), пісьменніка, публіцыста, краязнаўца.

**Снежань**

**4 снежня** - 20 гадоў таму (2003 г.) Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь прызнаў, што на практыцы **парушаецца баланс ужывання беларускай і рускай моваў**. Ён прапанаваў Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу ўнесці змены ў заканадаўства для падтрымкі беларускай мовы. Але за 10 гадоў парламентам нічога не зроблена па гэтай прапанове.

**10 снежня** - 138 гадоў з дня нараджэння (1888) у Гарадку (Беласточчына) **Міколы Дзямідава**, вайсковага, грамадска-палітычнага дзеяча;

**10 снежня** - 110 гадоў з дня нараджэння **Вацлава Гебельта** (1913, Гарадзенскі раён - 1999 г.), лацініста, беларускага шахматыста, гросмайстра, пераможца 1-га чэмпіянату Міжнароднай шахматнай кампазіцыі. Пераклаў з латыні Прывілей на Магдэбургскае права для г. Ліды.



**10 снежня** - 90 гадоў таму (1933) была заснавана **Урадавая бібліятэка** імя М. Горкага з 1994 г. мае назву "Прэзідэнцкая бібліятэка Рэспублікі Беларусь".

**12 снежня** - 90 гадоў з дня нараджэння (1933) у Оршы **Зінаіды Мажэйкі**, беларускай даследніцы традыцыйнай музычнай культуры, аўтаркі кніг і кінафільмаў пра песенныя скарбы Беларусі.



**16 снежня** - 120 гадоў з дня нараджэння **І.В. Ахрэмчыка** (1903-

# Юбілейныя і памятныя даты 2023 года

1971), жывапісца, народнага мастака БССР.

**16 снежня -** 85 гадоў з дня нараджэння **Эдуарда Канстанцінавіча Агуновіча** (1938 г.), мастака.

**18 снежня -** з дня палёту ў космас (1973 г.) **Пятра Клімука** першага прадстаўніка Беларусі (потым здзейсніў яшчэ два палёты).



**23 снежня -** 85 гадоў таму (1938) створаны **Беларускі саюз мастакоў**.

**24 снежня -** 225 гадоў з дня нараджэння **Адама Міцкевіча** (1798-1855), паэта, публіцыста грамадскага дзеяча.



**24 снежня -** 110 гадоў з дня нараджэння **Аляксея Кулакоўскага** (1913-1986), празаіка.

**26 снежня -** 130 гадоў з дня нараджэння **Яўгена Цікоцкага** (1893-1970), кампазітара, народнага артыста СССР.

**27 снежня -** 100 гадоў з дня нараджэння **А.С. Вялюгіна** (1923-1994), паэта, кінадраматурга.

**Снежань -** 110 гадоў таму назад быў падрыхтаваны да друку **"Вянок"** М. Багдановіча.

**У 2023 годзе спаўняецца:**

**1710 гадоў Міланскага эдыкта** імператара Канстанціна.



***Помнік да 1600-годдзя Міланскага эдыкта, устаноўлены ў 1913 годзе ў Правых Мастах Мастоўскага раёна Гарадзенскай вобласці ксендзам Язэпам Уладзіславам Сарасекам***

**1160 гадоў** з часу стварэння славянскай азбукі (**кірыліцы**).



**910 гадоў** з дня нараджэння **Кірылы Тураўскага** (1113-1190), асветніка, багаслова.

**800 гадоў** з часу заснавання горада **Нясвіжа**.

**700 гадоў** з часу заснавання горада **Ліды**.

**610 гадоў** ад часу першага пісьмовага ўспаміну пра **Ваверку** Лідскага раёна.

**460 гадоў** таму назад у адной з Берасцейскіх друкарняў на сродкі Мікалая Радзівіла Чорнага выдадзена **"Берасцейская Біблія"**.

**410 гадоў** таму выдадзена **карта Т. Макоўскага**.

**290 гадоў** з дня нараджэння **Антонія Тызенгаўза** (1733-1785), дзяржаўнага і грамадскага дзеяча ВКЛ, асветніка, мецэната.

**250 гадоў** з дня нараджэння **Юстына Нарбута** (каля 1773-1845), гісторыка, аўтара даследванняў па гісторыі Гарадзеншчыны.

**160 год** з дня нараджэння **Біруты** (сапр. Даравінская Амелія, 1863-1891), беларускай і польскай фальклarысткі, этнографа.

**150 гадоў** з дня нараджэння **Веры Навіцкай**, начальніцы Лідскай жаночай гімназіі, дзіцячай пісьменніцы.

**140 гадоў** з дня заснавання (1883) шклозавода **"Нёман"** у г. Бярозаўка Лідскага р-на.

**90 гадоў** таму (1933) пабудаваны ў Менску **Дом Ураду.**

**85 гадоў** таму быў створаны **Ансамбль песні і танцу** Беларускай вайсковай акругі (цяпер Акадэмічны ансамбль песні і танцу Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь).

**40 гадоў** з часу заснавання часопіса **"Мастацтва"**.

**35 гадоў** таму назад завершана выданне **"Збору помнікаў гісторыі і культуры"** ў 8 тамах.

**25 гадоў** таму створана Міністэрства па надзвычайных сітуацыях **(МНС)** Беларусі.

**20 гадоў** таму завершана **газіфікацыя Палесся**, якая пачалася ў 1973 г.

**15 гадоў** таму (2008) на Нёмане пачалося будаўніцтва **Гарадзенскай ГЭС**.

***Складальнік***
***Станіслаў Суднік.***





*Эдуард Акулін*

# З Беларуссю ў душы...

## *За тры дні да 60-годдзя*

*Эдуард Акулін (Эдуард Аляксандравіч Акулін) - паэт, перакладчык, бард. Нарадзіўся 7 студзеня 1963 года ў вёсцы Вялікія Нямкі на Веткаўшчыне. Скончыў Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт (1984) і аспірантуру Інстытута Літаратуры НАН Беларусі (1990). Працаваў настаўнікам, загадчыкам філіі Літаратурнага музея Максіма Багдановіча "Беларуская хатка" (1990 -2001), намеснікам галоўнага рэдактара часопіса "Першацвет" (1993), загадчыкам аддзела паэзіі часопіса "Полымя" (2001-2002), намеснікам галоўнага рэдактара часопіса "Дзеяслоў" (2002 - 2013) і намеснікам старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў (2002-2013). З 2009 па 2021 год - галоўны рэдактар часопіса "Верасень". Вершы друкаваліся ў газетах "Чырвоная змена", "Звязда", тыднёвіках " ЛіМ" , "Ніва", "Украінская літаратурная газета", часопісах "Першацьвет", "Маладосць", "Полымя", "Нёман", "Наша вера", "Верасень" і "Дзеяслоў". Аўтар кніг паэзіі: "Лес дзённага асвятлення" (1988), "Пяшчота ліўня" (1990), "Крыло анёла" (1995), "Радно"( 2000), "Непрычалены човен" (2003), "Вітражы" (2009), "Малітва воч" (2012), "Святая ноч" (2012), " Падзяліцца поўняй" (2020), "Плашчаніца" (2020), драматычнай містэрыі "На Каляды" (1996), шматлікіх перакладаў з украінскай, польскай, літоўскай, славенскай, балгарскай і нямецкай моваў, а таксама двух песенных магнітаальбомаў: "Мая Крывія" (1995), "Як яна і я" (2000) і кампакт-дыскаў "Напачатку была Песьня" (2003), "Песьні залатой Крывіі"(2008), "Не магу жыць без крыл…" (2012). Вершы перакладаліся на ангельскую, французскую, італьянскую, украінскую, рускую, польскую, балгарскую, славенскую, харвацкую, сербскую, літоўскую, латышскую і нямецкую мовы. Лаўрэат Першага нацыянальнага фестывалю беларускай бардаўскай песні (1993). Лаўрэат міжнароднай прэміі імя Міколы Ганька (2013). Лаўрэат літаратурнай прэміі "Гліняны Вялес" (2014). Лаўрэат літаратурнай прэміі "Срэбнае лятучае пяро", Балгарыя (2016).*



**Араты**

І ў дзень шчаслівы, і ў момант страты,
плуг утапіўшы ў сухой раллі,
на полі Мовы паэт - Араты,
вядзе барозны з сваёй крыві…

Што нас чакае - ніхто не знае…
Пасеш Слова - узыйдзе Страх…
Вол-паднявольнік між зор ступае,
ярмом чапляе за Млечны Шлях…

Ад мігу тога, як быў зачаты,
да той хвіліны, як згасне свет, -
на полі Мовы паэт - Араты,
а поле тое - увесь Сусвет…

*30 сакавіка 2020 г. 7:42.*

**Тур**

Узваліўшы ранак хмуры
на магутнае плячо,
Князь Барыс ідзе на тура
з хітрай злобай у вачох…

Мкнуцца дзіды, гнуцца лукі,
рвуць ашыйнікі харты…
Рог турыны грозным гукам
распалохаў чараты…

Ад світання да змяркання
йдуць уцёкі ад хаўтур…
І нарэшце горда стане
перад князем вольны тур.




Вочы ў вочы, морда ў пене,
у крыві - вачэй прыжмур…
Ды ніколі на калені
не ўпадаў ад страху тур…

Не ў туманнае сутонне,
не ў дажджлівы небакрай, -
тур падаўся у паданне,
у аблозе псіных зграй…

Памыліцца не збаюся,
бо ў святое верыцца…
Тур вярнуўся ў Беларусь,
Бог таксама вернецца!

*8 сакавіка 2020 г. 16:20.*

**Не на паказ…**

Мая Вера - не на паказ…
Мае вершы - без камуфляжу…
Не патрэбен мне антураж
дзеля таннага эпатажу…

Штоначы, бы ў забой шахцёр,
я спускаюся ў прыіск зорны, -
Слова роднага валанцёр
і Паэзіі раб пакорны…

У галернай сляпой цішы,
каб народ мой не зведаў зводу, -
не на лацкане, а ў душы
я нашу Беларусь заўсёды…

*26 красавіка 2020 г. 05:47.*

**Беларуская мова**

Беларуская мова!
Ты жывеш у музеях,
у архіўных спецсховах
і ў метропалітэне…

Як матуля, якую
дзеці з дому прагналі,
ў электрычках жабруеш,
спіш на брудных вакзалах…

Ды на могілках часам
я цябе сустракаю,
калі скрушныя фразы
эпітафій чытаю…

А ні ў новенькай школе,
а ні ў храме звячэлым
не пачуеш ніколі
голас твой анямелы…

Беларуская мова!
Як не будзе дзе дзецца, --
я заўсёды гатовы
прытуліць цябе ў сэрцы!

*21 лютага 2020 г. 6:25.*

**Залатамытнік**

*Ахвярую Уладзіміру Чараухіну*

Анёл - господні мытнік,
глядзіць з нябёсных меж,
як, слоў залатамытнік, -
паэт складае верш.

Як гукаў залацінкі,
бы знічкі у кашы,
да сподняе гадзіны
прасейвае ў душы…

Нікому невядома -
які ў яго намер…
Навобмацак ён словы
знаходзіць, як Гамер…

На тле вялікай бітвы
сярод начной цішы
ён светлую Малітву
дастане з дна душы…

*2 красавіка 2020 г.*

**Дарога дадому…**

Дарога дадому - з вершаў…
Душа, як страла, ляціць
туды, дзе пад лаўку пешшу
навучыўся калісь хадзіць…
Дарога дадому - з грому,
з маланкі крутым сярпом,
якая штоноч без стомы
выкошвала выспу сноў…
Дарога дадому - з болю…
Як скрушна, калі глядзіш
на цэркаўку ў чыстым полі,
што моўчкі нясе свой крыж…
Дарога дадому - Шчасце,
якое нам Госпад даў...
Яна - як душы Прычасце
да самых высокіх спраў!..

*28 красавіка 2020 г. 6:52.*

**Лістапад**

Гляджу на сумны сад
і сам між дрэў знікаю…
Так блізка Лістапад, --
што я яго кранаю…

У вогнішчы прысад
разгублена блукаю…
Так блізка Лістапад, -
што я у ім згараю…

Ніякіх больш парад
ад Бога не чакаю…
Так блізка Лістапад, -
бліжэй чым брама раю…

**Дух Паэзіі**

Ні церпкім кубінскім ромам,
ні свежым фабрычным хлебам, -
Паэзія пахне громам,
Паэія пахне небам…

Ні пылам арэны цырка,
ні потам пуант балетных, -
Паэзія пахне жвірам,
дастаным з глыбі Сусвету…

Ні прытарнай цукраватай,
ні ліпкай душой каштана, -
Паэзія пахне Здрадай,
крывёю з Гасподніх ранаў…

*28 красавіка 2020 г. Радаўніца.13:16.*

**Мала...**

Ісціну вядомую спрадвеку
суджана не кожнаму спазнаць, -
мала нарадзіцца чалавекам,
Чалавекам трэба яшчэ стаць...

Каб даваць адпор хлусні і здзекам,
каб душу за грошы не прадаць, -
мала нарадзіцца чалавекам,
Чалавекам трэба яшчэ стаць...

Каб не страціць Боскую апеку,
каб бяздушным зверам не сканаць, -
мала нарадзіцца чалавекам,
Чалавекам трэба яшчэ стаць...

*20 сакавіка 2022 г. 15:53.*

**Шлях**

Валуны на палях -
знак таемнай заклятасці...
Трэба доўжыць свой шлях, -
нат калі ён бязрадасны.

Па дзядоўскіх касцях,
што ў разорах заворany, -
трэба доўжыць свой шлях
грамадой непакорнаю.

І калі чорны страх
вочы выдзеўбе воранам, -
трэба доўжыць свой шлях
да вяршыняў няскораных.

І калі у грудзях -
сэрца стомленым молатам, -
трэба доўжыць свой шлях,
што вякамі намолены.

Трэба доўжыць свой шлях
з непахіснай упартасцю,
бо хто сее ў слязах, -
жне заўсёды у радасці...

*11 снежня 2022 г. 21:49.*

**Прызнанне**

Хоць часцей нябёсы сталі хмарыцца,
зімна на душы без халадоў...
- Любая, хачу з табой састарыцца,
вымаліўшы ў Госпада Любоў...

Хоць радзей аб шчасці стала марыцца,
і глыбей трывога за сыноў...
- Любая, хачу з табой састарыцца
у Эдэме залатых гадоў...

Хоць няма прычын у нечым каяцца, -
каюся, святлеючы ў журбе...
Я старэю, а Яно не старыцца,
- Любая, - Каханне да цябе...

*16 сакавіка 2022 г. 8:00.*

**Давайце дзяліцца Святам!**

Пакуль над азяблым садам
сярпок-маладзік не згас, -
давайце дзяліцца Святам,
каб Бог не пакінуў нас!..

Пакуль між сняжын-аплатак
анёлы танцуюць вальс, -
давайце дзяліцца Святам,
каб Бог не пакінуў нас!

Я ведаю - нас багата,
хто верыць у светлы час...
Давайце дзяліцца Святам,
і Бог не пакіне нас!

*24 снежня 2022 г. 20:49.*





# Памёр 265-ты Папа Рымскі Бенедыкт XVI








Рымскі Папа Бенедыкт XVI, які быў на пенсіі, памёр 31 снежня на 96-м годзе жыцця.

*"У апошнія некалькі гадзін стан Бенедыкта XVI пагоршыўся з-за сталага ўзросту, ён знаходзіцца пад наглядам дактароў"*, - гаварылася ў паведамленні Ватыкана.



***Бенедыкт XVI*** *(лат. Benedictus PP. XVI, італ. Benedetto XVI, у свеце Ёзаф Алаіз Ратцынгер, ням. Joseph Alois Ratzinger; 16 красавіка 1927, Марктль, Германія - 31 снежня 2022, Манастыр Маці Царквы) - біскуп Рымска-каталіцкай царквы, 265-ты Папа Рымскі (з 19 красавіка 2005 года па 28 лютага 2013 года).*

*Бенедыкт XVI стаў самым старэйшым па ўзросце на момант абрання Рымскім Папам з часоў Папы Клімента XII (абраны ў 1730 годзе). Бенедыкт XVI - першы Папа Рымскі з часоў Паўла IV (XVI стагоддзе), які быў абраны, былшы дэканам Калегіі кардыналаў, першы кардынал-біскуп, абраны на папства з часоў Пія VIII, першы Папа з часоў Бенедыкта XIII, які меў сан кардынала да абрання доўгі час (28 гадоў), першы Папа нямецкага паходжання за апошнюю амаль тысячу гадоў. Трэці Папа за ўсю гісторыю каталіцкай царквы (пачынальна з Цэлестына V) і першы за апошнія шэсцьсот гадоў (пасля Рыгора XII), які адрокся ад пасаду. Яму належаў рэкорд даўгалецця сярод рымскіх папаў. 4 верасня 2020 года Бенедыкт XVI стаў самым даўгавечным Папам, ва ўзросце 93 гадоў, 4 месяцаў і 19 дзён, перасягнуўшы Льва XIII, памерлага ў 1903 года ва ўзросце 93 гадоў 4 месяцаў і 18 дзён.*

*Бенедыкт XVI дабраахвотна пакінуў пасаду з-за дрэннага стану здароўя. Афіцыйны тытул пасля адрачэння - Яго Святасць Бенедыкт XVI, Papa Emeritus (Папа Рымскі на супакоі).*

У саборы святога Пятра ў Ватыкане некалькі дзён ідзе цырымонія развітання з былым Папам Бенедыктам XVI. Перад саборам вышыхтавалася доўгая чарга ахвочых развітацца. Гэта можна будзе зрабіць да пахавання, якое пройдзе ў чацвер, 5 студзеня.

***Паводле СМІ.***

*Фота: Andrew Medichini, File / AP.*

*Фота: AP / Alessandra Tarantino.*



*Навіны Германії*

# Канцлер Шольц заклікае да аптымізму




Берлін (dpa) - Канцлер Олаф Шольц заклікае народ Германіі ўступіць у новы год з упэўненасцю і энергіяй. У навагоднім звароце Шольц сказаў, што ва ўмовах ваеннага канфлікту ва Украіне Германія, а таксама ЕС і НАТА прадэманстравалі згуртаванасць і сілу.

- Германія - моцная краіна, - сказаў ён. - Краіна, якая з вялікай аддачай і хуткасцю працуе над стварэннем добрай, бяспечнай будучыні. Краіна, жыхары якой трымаюцца разам, асабліва ў цяжкія часы. Краіна, у якой мы нікога не пакінем без падтрымкі ў цяжкім становішчы - няхай гэта будуць гарадскія ці сельскія жыхары, пажылыя ці маладыя, забяспечаныя ці меней забяспечаныя, якія нарадзіліся тут ці прыехалі сюды пазней.



- Гэта быў цяжкі год, які падыходзіць да канца, - сказаў канцлер. Ён адзначыў, што Еўрапейскі Саюз і НАТА не падзелены, як падчас многіх папярэдніх крызісаў, а больш адзіныя, чым былі на працягу доўгага часу. Такім чынам, канцлер лічыць, што гісторыя 2022 года - гэта таксама гісторыя згуртаванасці, сілы і ўпэўненасці.

*picture alliance/dpa.*

# Германія нацэлена на цеснае супрацоўніцтва з Бразіліяй

***Федэральны прэзідэнт Штайнмайер сустрэўся з новым прэзідэнтам Бразіліі Лулой. Германія выдзеліць 35 мільёнаў еўра ў Фонд Амазонкі для абароны трапічных лясоў.***



Бразілія (dpa) - Прэзідэнт Германіі Франк-Вальтар Штайнмайер пасля перамоваў з новым прэзідэнтам Луісам Інасіу Лула дэ Сілва адзначыў важную ролю Бразіліі ў міжнароднай палітыцы.

- Прыемна ўсведамляць, што Бразілія вяртаецца на міжнародную арэну, - сказаў Штайнмайер у сталіцы краіны горадзе Бразіліа. - Неабходна, каб у Бразіліі было такое палітычнае кіраўніцтва, якое будзе іграць сваю ролю не толькі падчас эканамічнага супрацоўніцтва, але і ў абароне глабальнага клімату.

Прэзідэнт Германіі сказаў, што яму прыемна адзначыць, што Лула гатовы ўзяць на сябе ў Бразіліі менавіта гэтую ролю.

Штайнмайер абвясціў, што Германія ў кароткатэрміновай перспектыве выдзеліць 35 мільёнаў еўра для Фонду Амазонкі на абарону трапічных лясоў. Гэта грошы, якія былі замарожаны ў часы папярэдняга прэзідэнта Жаіра Балсанару.

- Для ўсіх нас важна захаваць зялёныя лёгкія Зямлі - трапічныя лясы Амазонкі, - сказаў прэзідэнт.

У нядзелю Лула быў прыведзены да прысягі ў якасці новага прэзідэнта Бразіліі.

Штайнмайер хоча таксама наведаць трапічныя лясы ў рэгіёне Амазонкі ў Бразіліі і з першых вуснаў даznацца пра высечку лясоў і яе наступствы. Яго будзе суправаджаць федэральны міністр навакольнага асяроддзя Германіі Штэфі Лемке. Абое далі зразумець, што Германія імкнецца да цеснага супрацоўніцтва з новым урадам Бразіліі па пытаннях экалогіі і клімату.

- Мы хочам стварыць новы альянс у супрацоўніцтве з Бразіліяй для выратавання трапічных лясоў і супраць вымірання біялагічных відаў, - сказала Лемке. Па яе словах, яна цвёрда ўпэўнена, што новы ўрад будзе для гэтага "сапраўды добрым партнёрам".

*picture alliance/dpa*





# Шульцэ:

## *“Людзі ва Усходняй Афрыцы не забыты”*

***Міністр эканамічнага супрацоўніцтва і развіцця Германіі абяцае аказаць падтрымку гаротнаму насельніцтву ў краінах Усходняй Афрыкі. Урад Германіі выдзяляе для гэтага 360 мільёнаў еўра.***




Берлін (dpa) - Міністр эканамічнага супрацоўніцтва і развіцця Германіі Свенья Шульцэ папярэдзіла, што нельга забываць пра лёс мільёнаў галодных людзей ва Усходняй Афрыцы.

- На Афрыканскім Розе людзі моцна пакутуюць ад кліматычных змен, якія былі выкліканы не імі, - растлумачыла міністр. Па дадзеных яе міністэрства, Германія выдзяляе 360 мільёнаў еўра на падтрымку абяздоленых у гэтым рэгіёне. Грошы будуць прадстаўлены краінам, якія пацярпелі асабліва моцна - Самалі, Эфіёпіі і Судану.

З-за найбуйнейшай засухі за апошнія 40 гадоў мільёны людзей ва ўсходняй Афрыцы пакутуюць ад голаду. У некаторых раёнах людзі чакаюць дажджу ўжо два гады. Па словах міністра, сітуацыя пагаршаецца рэзкім ростам цэнаў на збожжа, угнаенні і энерганосьбіты.

- Акрамя таго, існуюць рэгіянальныя канфлікты і палітычныя крызісы. Тут неабходны салідарнасць, хуткая дапамога і шмат цярпення, - папярэдзіла Шульцэ.

Каля 200 мільёнаў еўра са сродкаў дапамогі прызначаны для аказання хуткай дапамогі непасрэдна насельніцтву. Па словах міністра, у Самалі і Судане грошы пойдуць у першую чаргу цяжарным жанчынам і маці з дзецьмі - яны асабліва пакутуюць ад голаду. Толькі ў Самалі, па дадзеных міністэрства, амаль два мільёны дзяцей пакутуюць ад недаядання. Акрамя таго, грошы прызначаны, напрыклад, для мясцовых цэнтраў аховы здароўя. Па дадзеных міністэрства, астатнія 160 мільёнаў еўра будуць скарыстаны ў больш доўгатэрміновай перспектыве для адаптацыі да змены клімату.

*picture alliance/dpa*

*Навіны Германіі*

# "Вяртанне бенінскіх бронзавых фігур паслужыць узорам"

Берлін (dpa) - Па меркаванні Германа Парцынгера, прэзідэнта Фонду прускай культурнай спадчыны, вяртанне каштоўных бенінскіх бронзавых фігур шмат у чым вызначыць тое, як у будучыні будуць пастурапаць з па-рабаўніцку вывезенымі каланіяльнымі каштоўнасцямі.

- У выпадку, калі становіцца відавочным неправавы кантэкст адпаведных падзей, як гэта адбылося з бронзавымі фігурамі з Беніна, аднаўленне правоў уласнасці стане важным і правільным крокам, - сказаў Парцынгер.





У аўторак у сталіцы Нігерыі Абуджы 20 бенінскіх бронзавых фігур былі вернуты гэтай афрыканскай краіне. Творы мастацтва, выкрадзеныя брытанскімі салдатамі ў каланіяльныя часы, належалі калекцыям пяці музеяў. Па словах Парцынгера, Германія ўжо вярнула прадметы мастацтва ў Намібію і Танзанію, і тое ж самае плануецца зрабіць у Камеруне.

*picture alliance/dpa*

# Нацбанк выпусціў некалькі манет незвычайнай формы






















Галоўная фінансавая ўстанова краіны выпусціла некалькі манет. Сярод іх манеты квадратнай, прамавугольнай і шматвугольнай формаў.

Так юбілею бітвы на Сініх Водах (1362 год) прысвечана квадратная манета наміналам 20 рублёў з выявай вялікага князя літоўскага Альгерда, які 660 гадоў таму выгнаў татараў з большай часткі сучаснай Украіны.

Выпушчаны манеты, прысвечаныя 100-годдзю Нацыянальнай бібліятэкі, космасу, творчасці мастака М. Савіцкага і птушцы года - белай сініцы.

***Наш кар.***





# Беларусы сустракаюцца з індзейцамі

## *Майстры слова і пэндзля: Гарадынскі, Пухлоў, Стыльман*

*(Працяг, пачатак гл. у № 19, 22, 24, 27, 30-34, 36-48, 50-52 за 2022 г., 25 выпускаў)*

Чытачоў мы віншуем і з праваслаўнымі Калядамі - з дапамогай паштоўкі ад матушкі Глэдзіс Аскаак з раёна Іліямны. Гэта - маленькая грамада на беразе аднайменнага вялізнага возера - другога прэснага па памеры ў ЗША пасля возера Верхняга. Назва перанесена пры прыездзе жыхароў на новае месца - з ранейшага атапаскага (дэнаіна) паселішча (Old Iliamna). Але святаром у іх тады быў і дагэтуль пазначаны на сайце Orthodox Church of America (OCA) эскімос-юпік айцец Дэвід Аскаак (і жыхары паходжання "Native American" складаюць каля 50 працэнтаў насельніцтва). Месца жыхарства Аскаакаў - суседняе, калісьці эскімоскае (юпік) паселішча Ньюхэйлен, у якім цяпер жывуць як юпікі, так і эскімосы алуціік і індзейцы атапаскі ("карэнныя" - 85 працэнтаў жыхароў).




***Праваслаўная калядная паштоўка, атрыманая (10.01.1991) з Аляскі ад матушкі Глэдзіс Аскаак***




***Matushka Gladys Askoak's Christmas and New Year congratulations - postcard (received 10.01.1991)***



MATUSHKA GLADYS ASKOAK
Post Office Box 225
Iliamna, Alaska 99606

March 22, 1990

Ales Simakou
Byelorussian American Indian Society
USSR, BSSR, 246049
Gomel, 5 microdistrict 19/78

Dear Ales:

My name is Matushka Gladys Askoak. I live at Newhalen, Iliamna, Alaska. Originally I am from the Yukon river a village by the name of Pilot Station about 90 miles down river from Russian Mission. My husband Reverand Father David Askoak is from Russian Mission. Russian Mission is quite close to Holy Cross.

We are really interested in the history of our area, if possible maybe you can help us.

Your people introduced the Orthodox Christianity to our area and of course we are ever so thankful. One of the priests that was living at Russian Mission was Father Yakov Netsvitov. He lived in Russian Mission as a Monk Priest for many years and taught the Yupik (eskimo) people Orthodox Christianity.

A lady by the name of Lydia Black translated some of his logs that were gathered and it was very interesting to read because it contained alot of his duties in our area. I am sure that letters and logs were sent back to Russia by him that pretained to our area. It would be a blessing from our good LORD if we could read some of them.

We would be honored if we could be listed as your friends.

I saw your letter to the editor in the Tundra Times.

Sincerely,

Matushka Gladys Askoak

Matushka Gladys Askoak

***3. Letter of Gladys Askoak 22.03.1990***

**ГАРАДЫНСКІ Баляславў** - жывучы ў прэрыйным штаце, гэты "варшавяк", продкі якога паходзілі з усходняй Беласточчыны, зямлі Бельскай, што ляжала ў Гродзенскай губерні, быў сведкам таго, як лугавыя сабачкі па меры сельскагаспадарчага асваення зямель усё больш выганяліся са сваіх норак - так што, *"відаць, з часам пад націскам прагрэсу цывілізацыі, разам з індзейцамі, захавае памяць пра іх толькі гісторыя краіны…"*.

Гарадынскі як значны прадстаўнік палоніі з'явіўся ў многіх выданнях другой РП і ПНР - і яго лічаць, у прыватнасці В. Слабчынскі, адным з нямногіх палякаў, якія працяглы час знаходзіліся сярод індзейцаў. Але гэта выглядае як застарэлы міф - адзін з вельмі многіх, якія жывыя дзякуючы частым паўтарэнням. У часткі аўтараў, праўда, фраза пра 16 гадоў адносіцца да перыяду, праведзенага ў Амерыцы, а не сярод омаха ў штаце Небраска. Адна крыніца ўдакладняе, што Гарадынскі быў мастаком і ўзяў для лепшай хады па жыцці англасаксонскае прозвішча, падобнае да прозвішча яго сябра, і называе месца яго пражывання: "Stadter settled in the Plattsmouth, Nebraska area and lived there from 1868 to 1877". Платсмаўт знаходзіцца на мяжы з Аявай, у месцы, дзе зліваюцца Місуры






Fresk z Supraśla
Święty Jerzy
220 × 85 cm, 1557 r.
Muzeum Okręgowe w Białymstoku
fot. J. Noyszewski

2498 R/II/77
II-4/980/76
15000 egz.
Z. O. z. 7112
J-82
Cena zł 2.80
+20 gr
na NFOZ

Хрыстос Уваскрос!
Баляслаў Гарадынскі - безумоўна
беларус.

Пасха 1990. Антось.

kod. poczta
Wszelkie prawa zastrzeżone

***Антон Міранові́ч (Antoni Mironowicz) - пра паходжанне Б. Гарадынскага (Вялікдзень 1990, даслана праз Сяргея Вітушку)***

і Плат. Рэзервацыя ж Омаха таксама прылягае на ракі Місуры, але даволі далёка на поўнач ад Платсмаўта.

У канцы 1870-х, Фрэнк Стадтэр удзельнічаў у станаўленні "Art Department at the University of Nebraska in Lincoln" (Небраска), дзе выкладаў маляванне і жывапіс.

Тое, што многае з напісанага пра Гарадынскага можа быць часткай "польска-амерыканскіх легенд", а не сапраўдных фактаў, асцярожна выказвае ў пачатку свайго артыкула "Дзейнасць Баляслава Гарадынскага на службе амерыканскаму консульству ў Варшаве ў святле досведу, набытага ў эміграцыі ў ЗША" ("Dzialalnosc Boleslawa Horodynskiego w sluzbie konsulatu amerykanskiego w Warszawie w swietle jego doswiadczen zebranych na emigracji w USA", 2011) Я. Дэліда (Delida).

*"Постаць Баляслава Гарадынскага звычайна прадстаўляюць як палітычнага эмігранта, які пасля Студзеньскага паўстання пасяліўся ў Злучаных Штатах, сярод індзейцаў омаха ў штаце Небраска. Але пры больш пільным разглядзе даступных крыніц герой гэтай работы выглядае хутчэй як знаходлівы прадпрымальнік, часам актыўны ўдзельнік грамадскага жыцця краіны, у якой ён знаходзіўся, чым як аматар і знаўца звычаяў карэнных жыхароў паўночнаамерыканскага кантынента. Веды і вопыт, атрыманыя пры ўдзеле ў розных праектах падчас яго знаходжання ў Злучаных Штатах, паспрыялі таму, што пасля вяртання на бацькаўшчыну ён атрымаў магчымасць выкарыстаць іх, стаўшы сакратаром ганаровага консульства ЗША ў Варшаве, а затым служачы віцэ-консулам".*

Індзейская тэма адлюстраваная ў артыкулах Гарадынскага "Гісторыя племені ["пакалення"] омаха" і "Омаха", змешчаных у варшаўскай перыёдыцы ў 1884 г. (калі верыць Слабчынскаму, то праз тры гады пасля вяртання на радзіму). Яны, відавочна, прымеркаваны да знаходжання індзейцаў з Небраскі ў Варшаве - роля ў іх прыездзе Гарадынскага "напрошваецца", але - усё "наадварот".

Як ўпершыню мог з'явіцца ў друку матыў "Гарадынскі і індзейцы" - паказана ў Дэліды: *"Сярод натоўпаў, якія глядзелі спектаклі, быў і Баляслаў Гарадынскі. Так здарылася, што група, якая прыехала з-за акіяна, паходзіла са штата, дзе ён жыў у эміграцыі. Ведаючы англійскую мову, ён меў зносіны з індзейцамі праз перакладчыка. Удалая спроба наладжвання кантакту з індзейцамі прыцягнула ўвагу да Гарадынскага журналістаў, дзякуючы чаму яго імя пачало даволі часта з'яўляцца ў прэсе. Такім чынам ён стаў вядомы як знаўца амерыканскіх спраў".*

Дэліда працытаваў шмат выказванняў з друку пра сувязі Гарадынскага з індзейцамі, сярод якіх і такія: *"...падчас знаходжання ў Амерыцы вывучыў індзейскую мову і размаўляў у Варшаве з індзейцамі, якія выступалі ў цырку"; "Пан Г. [Н.] правёў амаль 20 гадоў у Амерыцы, у асноўным у якасці фермера ў штаце Небраска, і ўдзельнічаў у не адной крывавай сутычцы з племенем омаха сіў".*

Гісторыя з прыездам у Варшаву індзейцаў омаха - не падман. Сучасны артыкул пра гэтую падзею - "Індзейцы ў Варшаве" (1992) Рышарда Таміцкага (Instytut Archeologii i Etnologii PAN). У ім змешчаны і два артыкулы Гарадынскага, а таксама каментарый:

*"Шырокую аўдыторыю праінфармаваў пра іх Баляслаў Гарадынскі, жыхар Варшавы, які за некалькі гадоў знаходжання ў Паўночнай Амерыцы меў магчымасць пазнаёміцца з омахамі, а ў 1884 г. быў адзіным чалавекам, які мог даць чытачам прэсы некалькі канкрэтных, хоць і не заўсёды дакладных звестак пра экзатычных цыркачоў. Два яго артыкулы, апублікаваныя ў "Кур'еры Варшаўскім" [Kurier Warszawski] і "Вэндроўцы" [Wedrowiec] (абодва ўвайшлі ў нашу падборку прэс-матэрыялаў), унеслі яснасць у этнічную прыналежнасць індзейцаў, якія наведвалі Варшаву і якія ў рэкламнай кампаніі называюцца омаха-сіў [Omaha-Sioux], а журналістамі ахвотна ідэнтыфікуюцца як сіў [Siouxowie]. Аднак наколькі гэтыя драбкі надзейных ведаў былі патрэбныя натоўпам варшавякаў, што наведвалі цырк Чынізэлі [Cinisellego, Ciniselli - ад прозвішча стваральніка гэтага пецярбургскага цырка], і ці змаглі яны аддаліць іх ад прывабных стэрэатыпаў, зусім іншая справа".*

Сам Гарадынскі пісаў у "Вэндроўцы" (Historya pokolenia Omaha, 1884, № 24): *"У 1883 г. быў заключаны новы дагавор, па якім пры пасрэдніцтве Джона Перчла [Perchle], напалову індзейца, дзяржаўнага перакладчыка, была набытая рэшта краю. Тымі, хто трактаваўся з боку індзейцаў, былі правадыры Сіндэ-Гангхан (Хвост, які свеціцца), Каха Рамба (Два кіпцюры), Санге-Ска (Белы конь), Шу-Жынга (Курапат), Дубамоны (Праваднік), Педзі Гахі (Пярэдні правадыр), Маэ Гахі (Чалавек правадыр), Ібе хамбі (Знаўца) і Судэносы (Жоўты дым) [Sinde-Ghanghan (Swiecacy ogon), Kaha Ramba (Dwa pazury), Sange-Ska (Bialy kon), Szu-Zinga (Kuropatwa), Dubomony (Przewodnik), Pedy Gahy (Przedni*





*wodz), Mae Gahy (Czlowiek wodz), Ibe hamby (Znawca) i Sudenosy (Zolty dym)]. З вышэйназваных правадыроў, апошні, Судэносы, разам са згаданым перакладчыкам Джонам Перчлам, у суправаджэнні жанчын і дзяцей свайго племя, па кантракце, заключаным з імпрэсарыа гр. Лагранжам, вырушыў з Небраскі 28 верасня 1883 г., сышоў на бераг у Гаўры, і праз Парыж, Берлін і Варшаву накіраваліся ў Імперыю".*

Такім тынам, індзейцы выступалі ў Варшаве праездам на шляху з Парыжа ў Расію, прычым, паводле розных версій з паведамленняў у польскім друку, - або ў Пецярбург, або ў Маскву. Якім маршрутам, праз Літву, Украіну? Якія шансы, што і праз Беларусь?

Вернемся да верыфікацыі беларускага паходжання нашага героя. "Літоўскасць" Б. Гарадынскага ў любым выпадку была ў значнай ступені страчаная, бо толькі яго дзед, Караль Бажыдар, паходзіў з беластоцкіх Гараднян, быў палкоўнікам часоў Станіслава Аўгуста і з жонкай ужо жыў каля Жэшава.

Праблема каранёў Гарадынскага была ўзнятая ў лісце да тады маладога, а цяпер аднаго з самых аўтарытэтных польска-беларускіх гісторыкаў:

*"Паважаны Антон Міранoвіч!*

*Пётр Байко параіў нам звярнуцца да Вас па справе вывучэння паходжання роду Гарадынскіх, што жылі (і, аказваецца, жывуць дагэтуль пад "варыянтным" прозвішчам Гарадэнскі) каля Беластока - Гарадняны, Ігнаткі, Клепачы. Для нас вельмі істотным было б высвятленне - беларускі гэта быў першапачаткова род ці мазавецкі. Прагледзеў пару польскіх шляхецкіх генеалагічных даведнікаў і пацікавіўся антрапаніміяй Бельскай зямлі тых часоў, але да нейкіх пэўных высноў не прыйшоў.*

*Баляслаў Гарадынскі - нашчадак аднаго з Гарадынскіх, што ў канцы 18 ст. жыў ужо каля Жэшава - 16 гадоў правёў сярод індзейцаў омаха ў Небрасцы, пісаў пра іх. Калі сярод яго продкаў быў хоць адзін беларус, уключым яго ў наша даследаванне беларуска-індзейскіх сувязей.*

*Вельмі просім Вас пасадзейнічаць. Калі Вам спатрэбіцца наш (па наяўных матэрыялах) гэтай генеалагічнай праблемы - прышлём.*

*З надзеяй чакаем"* (29.03.1990).

Міранoвіч на Вялікдзень 1990 г. коратка адказаў: "Баляслаў Гарадынскі - безумоўна Беларус" (палічыўшы больш важнай тэму запрашэння беларускіх дзяцей з чарнобыльскай зоны ў Польшчу на аздараўленне - і паштоўку перасылаў Сяржук Вітушка).

У яго сваякоў у сярэдзіне 16 ст. - тады іх прозвішча пісалася Horodyskie - акрамя імёнаў, якія характэрныя, хоць і ў сваім афармленні, і для палякаў, і для беларусаў, сустракаем імёны, якія могуць сведчыць пра праваслаўныя карані: Грынь, Шчэпан або Сцяпан, Мялешка, Мордас, Гжэгаш або Рыгор, Самуэль, Алексій і "Мацей, сын Ходара", Івах, Трухан, "Хамяльян [або Емяльян] і Хведар, сыны Косака"

Яго гісторыя ўсё яшчэ цьмяная для нас. Але звярнуць увагу на яе ў цэлым варта было - як стымул для пошукаў публікацый і неапублікаваных дакументаў, якія б пацвярджалі хаця б эпізадычныя сустрэчы нашага героя з індзейцамі. Па адной версіі, са спасылкай на яго ўнучку, у час Другой сусветнай вайны яго карціны і перапіска загінулі ад нямецкіх бомб, якія трапілі ў іх дом. Паўтараецца гісторыя К. Карніцкага: знішчэнне архіва і немагчымасць падмацаваць многія важныя моманты з біяграфіі - у т.л. і кантакты з індзейцамі непасрэдна ў Небрасцы, якія выклікаюць сумненні ўжо таму, што імі не пахваліўся ў сваіх тэкстах, што выяўлены, сам пан Баляслаў.

*Літ.: 9312 Johansen B. E. Indianie nauczyli mnie cenic wlasne i innych pochodzenie / rozmowa Aleksandry Ziolkowskiej-Boehm z Bruce E. Johansen, Profesorem "Communication and Native American Studies" z Uniwersytetu w Omaha w Nebrasce // Nowy Kurier (Toronto). 2008. 15-29 lutego. S. 12, 18. (Згадваецца "Веснік БІТ".)*

**ПУХЛОЎ Дзмітрый** (5) - у заключнай частцы інтэрв'ю пра жыццё ў раёне Temagami, апублікаванага ў "Свободных новостях плюс" у 2008 г., зноў гучыць: *"Так прайшоў яшчэ адзін год..."*

*"- А потым прыйшоў мясцовы злы чалавек. Гэты 24-гадовы індзеец паспеў адкруціць некалькі тэрмінаў у турме, яго выгналі з рэзервацыі. Я падабраў яго з дзяўчынай, задубелых ад холаду, калі рабіў пешы шлях у 50 км, вяртаючыся з горада, дзе ёсць інтэрнэт. Падзяліўся з імі ўсім, што ў мяне было, але... Індзеец аказаўся наркаманам і алкаголікам і ператварыў маю адзіноту ў сапраўднае пекла. Каб купіць морфій і какаін, ён узломваў катэджы і краў, а потым прыязджаў на крадзенай маторнай лодцы. Зрэшты, гэтыя двое былі спецыяльна пасланыя лёсам, каб стрэсам вывесці мяне са ступару, у якім я знаходзіўся. Я не стрыгся і не галіўся тры гады - доўгабароды дзед з прасветленымі ад самоты мазгамі. Раптам зразумеў: гэта знак - трэба мяняць жыццё і вяртацца ў горад".*




***Беражыце сябе - нагадвае мастак Майкл Хуч з Анкарыджа - "Happy fishing seasons"***








***Дзівакі дзівакам? Н. Гольдина "Трубка мира" (1991) - падарунак "рускага касміста" Льва Макоўскага (Гомель, 29.07.1999)***

*"- Што далі табе гэтыя тры гады, праведзеныя на зямлі індзейцаў?*

*- Там я ўбачыў, што можа стаць з народам, які забыў свае карані, - разважае Дзіма. - Тое, што можа стаць з беларусамі. Ва ўсёй рэзервацыі толькі тры індзейцы памяталі сваю родную мову і звычаі алганкін. Адзін з іх - ветэран Другой сусветнай, памёр гэтай вясной... Двое астатніх ніколі не адкрыюць беламу старажытныя індзейскія вераванні. Пацёмкінская вёска ў некалькі вігвамаў - лубок, паказуха для турыстаў. У свой час ім далі алкаголь, падзялілі і пасеялі сумневы. 350 гадоў каланізацыі. Мэта ўрада - растварыць індзейцаў у канадскім насельніцтве - паспяхова дасягнута. Дзеці ад змешаных шлюбаў ужо не маюць афіцыйнага статусу індзейца. Праз тры-чатыры пакаленні слова "індзеец" у Канадзе забудуць. Тая дэмакратыя, вобраз якой нам спрабуюць навязаць як Захад, так і Расія, на справе - воўк у авечай шкуры".*

*"Пасля нашай размовы Дзіма Пухлоў зноў паляцеў у Канаду - у лясы, якія некалі належалі індзейскім плямёнам. Ён яшчэ спадзяецца абудзіць самасвядомасць індзейцаў, вывучыць мову алганкін і, у сваю чаргу, навучыць іх беларускай".*

*Літ.: 7976 Торо Г. Звуки жизни: фрагменты книги Г. Торо "Уолден или жизнь в лесу" ["Уолден, или Жизнь в лесу"] // Чистый мир. 2004. № 104 (сент.).*

**СТЫЛЬМАН Ары** - нарадзіўся ў в. Грэск (цяпер аграгарадок Слуцкага раёна) - 1891, памёр у Х'юстане (Тэхас) - 1967. У 16 гадоў ён прыехаў у Су-Сіці, Аява, а ў 28 - у Нью-Ёрк, пасля невялікага вопыту з Art Institute of Chicago. У сярэдзіне 1950-х ён амаль страціў зрок на адно вока і студыю на Манхэтэне - развілася дэпрэсія, ад якой ён без поспеху спрабаваў пазбавіцца ў Еўропе і Мексіцы (у апошняй пражыў пяць гадоў, выехаўшы туды ў пачатку 1957 г.). Пасля смерці яго спадчынай займаўся фонд Stillman-Lack, і ў Калумбійскім універсітэце - найвялікшы збор яго твораў.

Прыгода Стыльмана з індзейцамі апісаная ў артыкуле парыжскага выдання "Чыкага санды трыбюн" ад 9.11.1930 г. , які мы пераклалі з англійскай цалкам:

*"Амерыканскі індзеец у сваіх першабытных месцах знаходжаннях натхніў Ары Стыльмана на вельмі цікавую серыю кампазіцый, якія цяпер можна паглядзець у Galerie Zak, у цені старой царквы Сен-Жэрмен-дэ-Прэ. Індзейцаў малявалі раней. Насамрэч, яны былі настолькі папулярныя ў старых амерыканскіх мастакоў-ілюстратараў, што сапраўдныя мастакі сталі ставіцца да іх з падазрэннем. Але індзейцы Стыльмана ўяўляюць сабой і малююцца зусім па-новаму, што, здаецца, абавязкова прыцягне ўвагу нават у мілым [blase] горадзе Парыжы і павінна абудзіць Амерыку да адчування мастацкіх магчымасцей, якія прапанавалі яе першабытныя жыхары.*


25.04.2004

Dear Leonard.
Your friend named Sergei Red Feather is writing you.
I was glad to see your undepressed face on your Internet site I became aware of your struggle in the 1980s as a boy, i saw your photo in a magazine and memorize you forever.
Dear Leonard, you are older now, but it seems to me that your look has not changed.
I also discovered an artist reflecting Native spirit.
Maybe my letter will cheer up you and your mood will become a bit better today. I wich you good health which you so need. Best wishes to the members of your Committee as well.
We in Belarus would be happy to hear from you.
Sincerely,
Sergei Red Feather.

P.S. i belive that you will see the prairie sunrise and an eagle will fly over you.

***Сяргей Чырвонае Пяро з "прэрый" Гомельшчыны - індзейскаму мастаку і актывісту. Red Feather of Gomel Voblasts to Leonard Peltier (25.04.2004)***

*Ары Стыльман не чужы ў Парыжы. Яго першая асобная выстава ў Бернхайме два гады таму выклікала цікавасць дзякуючы пэўным якасцям у яго палотнах, якія выявілі незвычайны тэмперамент і імкненне да арыгінальнай тэхнікі. З тых часоў ён вярнуўся ў Амерыку, у Су-Сіці, дзе працаваў ювелірам у дні свайго цяжкага пачатку, і асабліва ў Нью-Мексіка, дзе бачыў і вывучаў індзейцаў пуэбла ў іх рэлігійных танцах. Кампазіцыі, у якіх ён зафіксаваў сваё бачанне гэтых дзіўных і маляўнічых сцэн, з'яўляюцца ажыццяўленнем чаканняў, выкліканых яго ранейшымі пейзажамі.*

*Напісаць амерыканскія карціны і паказаць іх у Парыжы для мастака заўсёды пахвальна. Некаторым людзям гэта дапамагае даказаць, што для таго, каб быць добрым, зусім не абавязкова, каб карціна была напісана ў Брэтані або на Лазурным беразе. Аднак Ары Стыльман зрабіў больш, чым гэта. Яму ўдавалася маляваць незвычайныя сюжэты ў незвычайнай манеры. Ён удасканаліў свой уласны стыль, які адначасова з'яўля-*

*ецца вельмі эфектыўным і дэкаратыўным і які, акрамя таго, асабліва падыходзіць да сцэн, якія выкарыстоўваюцца.*

*На працягу многіх гадоў, гарачы аматар і даследчык старых габеленаў, Ары Стыльман выпрацаваў тэхніку, якая надае яго палотнам фактуру тканых колераў. Гэты метад асабліва эфектыўны ў перадачы колеру і руху яго карцін індзейскага танцу і ў здзіўляючай ступені забяспечвае гармонію і рытм кампазіцыі. Яго арыгінальнасць і эфектыўнасць асабліва яскрава праяўляюцца ў вялікай кампазіцыі Стыльмана пад назвай "Танец кукурузы", якая паказвае кампактную групу індзейцаў пуэбла, мужчын і жанчын, якія выконваюць рэлігійны абрад падзякі пасля збору ўраджаю. Гэта палатно, самая амбіцыйная работа, якую да гэтага часу напісаў Стыльман, прадстаўляе праблемы, якія былі б надзвычай небяспечнымі, калі б не гэтая цікаўная тэхніка габелена; як яна ёсць, яна цудоўна гарманічная і рытмічная па кампазіцыі. Карціна павінна знайсці месца ў амерыканскім музеі як важны прыклад амерыканскай тэматыкі, што разглядаецца цалкам па-новаму. Вядомыя французскія мастакі, якія бачылі яе, былі аднолькава ўражаныя дэкаратыўнай прыгажосцю карціны і навізной яе стылю.*

*Рэпрадукцыі здымкаў Ары Стыльмана на гэтай старонцы не даюць уяўлення аб цікавасці яго творчасці, якая не пасуе да фотааб'ектыву. Акрамя "Ваеннага танца" і "Індзейскіх спевакоў", ёсць і іншыя характэрныя індзейскія кампазіцыі і некалькі пейзажаў Нью-Мексіка і мясцовасці вакол Су-Сіці, акрамя вельмі тыповага аўтапартрэта мастака. Стыльман старанна падбіраў карціны, імкнучыся паказаць толькі творы, у якіх цалкам рэалізаваная яго новая тэхніка. Такім чынам, калі колькасць палотнаў абмежаваная, выстава выключна цікавая сваім адзінствам.*

*Ары Стыльман паказваў свае папярэднія работы ў Чыкага, Філадэльфіі і Сент-Луісе, а таксама меў асобную выставу ў Нью-Ёрку, акрамя ўдзелу ў парыжскіх "Салонах". Ягоная цяперашняя выстава азначае тое, што павінна стаць рашучым рухам у творчым развіцці надзвычай адоранага і адметнага [personal] мастака".*

Су-Сіці ("Горад сіў") - "горад-пабрацім" Слуцка і асабліва Капыля, з якога і ваколіц якога паходзіла пераважная частка жыхароў грамады выхадцаў з Расійскай імперыі.

*Літ.: 7864 Kospoth B. J. Ary Stillman's American Indians // Chicago Sunday Tribune (Paris edition). 1930. Nov. 9.*

*8314 Pen pals sought // Indian Youth of America (Sioux City, Iowa). 1990. Summer. V. 2. № 2. [P. 12]. ("IYA at a Glance": змешчаны гомельскі адрас.)*

***Алесь Сімакоў,***
*даследчык беларуска-індзейскіх сувязей.*

# Новы год прыйшоў і ў вёскі

У сельскіх Дамах культуры Лідскага раёна ва ўсю ідзе яго святкаванне!?







Дарослыя і дзеці наведалі святочныя навагоднія мерапрыемствы ў многіх вёсках раёна..

***ТК "Культура Лідчыны".***





# На канікулы ў Домік Таўлая

Канікулы - радасная пара для вучняў! Самы час для іх наведаць тыя цэнтры, дзе пануе культура, у якой пачэснае месца займае мастацтва і літаратура.

Дом паэта Валянціна Таўлая Лідскага гістарычна-мастацкага музея стаў такім цэнтрам для школ горада Ліды і нават Слоніма.

Дзеці наведалі мемарыяльны пакой паэта, які цесна звязаны з іншымі экспазіцыямі, а гэта значыць, дзе









разгорнута тэма беларускай літаратуры і роднай мовы, паэзіі і прозы, друку. Гэта ўсё тое, чым забяспечваў і наталяў сваю душу калісьці Валянцін Таўлай.

Хочацца спадзявацца, што праведзеныя хвіліны ў выставачных пакоях Дома Валянціна Таўлая для дзяцей сталі пазнавальнымі і запамінальнымі.

***Наш кар.***

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

*Адрас рэдакцыі:*
231282, г. Ліда, вул. Лётная, 7а.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* sejlawiczy@gmail.com, kajety@list.ru

Газета падпісана да друку 2.01.2023 г.

Фармат А-4.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

**Газета размяшчаецца на сайтах: http://nslowa.by/; http://pawet.net/; http://kamunikat.org/; http://belkiosk.by/**
*Дазваляецца самастойная раздрукоўка на паперу.*